МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 5 (157)
травень 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА ЎСПОМНІЛІ Ў МІНСКУ

30 траўня адбылося ўскладанне кветак на Усходніх могілках у Мінску, дзе пахаваны пісьменнік.

*Чытайце на стар. 2*

### У МАСКВЕ АДБЫЎСЯ ШОСТЫ З'ЕЗД ФНКА "БЕЛАРУСЫ РАСІІ"

Сябра Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Наталля Гардзіенка выступіла на з'ездзе і падрыхтавала рэпартаж пра гэтую падзею.

*Чытайце на стар. 4*

### НОВЫ ЎРАДЖАЙ "ГАРБУЗІКА"

Перыёдык для беларускамоўных дзетак выходзіў і раней стараннямі творчых бацькоў. Але цяпер, займеўшы падтрымку Саюза беларускіх пісьменнікаў і кампаніі "Будзьма беларусамі!", "Гарбузік" стаў ярчэйшым, пашырыў колькасць чытачоў і, спадзяемся, з'явіцца і ў дзяржаўных кнігарнях.

*Чытайце на стар. 5*

### ІТБК ЗБЯРЭ БЕЛАРУСАЎ НА БАЙКАЛЕ

З трэцяга па дзявятага жніўня на Малым моры пройдзе першы Фестываль беларусаў свету на Байкале.

*Чытайце на стар. 6*

## НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ НА СТАРЫХ ПАШТОЎКАХ ПРЭЗЕНТАВАЛІ Ў МІНСКУ

Мастак, пісьменнік, беларус Латвіі Вячка Целеш 27 траўня прэзентаваў у Нацыянальнай бібліятэцы дзве кнігі – папулярную "Гарады Беларусі на старых паштоўках", якая зазнала ўжо чацвёртае перавыданне, і ўласны радавод "Адсюль наш род, тут мой прычал". Арганізатарамі мерапрыемства выступілі МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", выдавецтва "Беларусь" і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.



Вячка Целеш вядомы найперш як мастак, які таксама сур'ёзна займаецца грамадскай дзейнасцю, скіраванай на сувязі з Беларуссю: ён намеснік старшыні Таварыства беларускай культуры ў Латвіі "Сьвітанак" і старшыня суполкі мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар". У 2006 годзе стаў кавалерам найвышэйшай узнагароды Латвіі — Ордэна Трох Зорак. А яшчэ ён стваральнік беларускай школы ў Рызе, якая нядаўна адзначыла 20-годдзе. Пра гэты бок дзейнасці Вячкі Целеша распавяла кіраўнік ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская: "Беларускае школьніцтва вельмі важнае і мала ў якіх краінах ёсць, толькі ў Літве, Латвіі, Польшчы, – сказала яна. – І калі колькі гадоў таму мясцовыя ўлады збіраліся закрыць гэтую школу ці далучыць да іншай, мы пісалі звароты, каб яна засталася. Бо гэта рэдкі выпадак. Напрыклад, у Расіі, дзе жыве каля мільёна беларусаў, няма ніводнай беларускай школы".

Кніга "Гарады Беларусі на старых паштоўках" даўно стала хітом продажаў і папулярным падарункавым альбомам. Чацвёртае перавыданне, якое з'явілася ў пачатку года ў выдавецтве "Беларусь", папоўнілася на 200 паштовак. У кнізе падаюцца таксама апісанні вуліцаў і будынкаў. "Кніга проста неверагодна прыгожая, – кажа вядучы рэдактар выдавецтва Анжэла Садоўская. – Яе часта набываюць на падарункі за мяжу".

"Не лічу сябе пісьменнікам, хутчэй аматарам беларускай гісторыі", – кажа Вячка Целеш. Збіраць паштоўкі ды маркі ён пачаў у дзяцінстве. Зборам Целеша цікавіліся нават кінематаграфісты: Рыгу пачатку стагоддзя ў фільме "Камяністы шлях" аднаўлялі паводле выяваў з ягонай калекцыі.

Паступова пачаў збіраць і беларускія паштоўкі, ягоная калекцыя рабілася вядомай: "На мяне "працаваў" увесь Савецкі Саюз, мне дасылалі паштоўкі з Уладзівастока і Харкава, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Саратава, Беластока. Бо ніхто ў той час у Беларусі гэтым не займаўся".

Кніга "Адсюль наш род, тут мой прычал" – гэта асабістае выданне, прысвечанае гісторыі роду Целешаў і вёсцы Краснае Сяло, адкуль ён паходзіць. Складаць свой радавод Вячка Целеш пачаў 20 гадоў таму і шкадуе, што позна: "Пачынаючы ад сёння запісвайце ўсё, што вы ведаеце пра сваякоў, гэта прыдасца вашым дзецям

➲

# Гарады Беларусі на старых паштоўках прэзентавалі ў Мінску

Працяг. Пачатак на стар. 1

і ўнукам”, – раіць ён. Узорам пісання радаводаў называе кнігу яе рэдактар журналіст Міхась Скобла. Аўтар змог знайсці ажно 12 галінак свайго роду ад XVIII стагоддзя і апісаць кароткія біяграфіі амаль 500 Целешаў. “Пакуль я дарэдагаваў кнігу, сам пачаў адчуваць сябе троху Целешам”, – жартуе Скобла.




“Мае продкі былі прыгонныя сяляне, але трэба і гэтым ганарыцца, а не толькі шляхетным паходжаннем”, – лічыць Вячка Целеш. Каб напісаць кнігу, яму давялося шмат разоў прыязджаць з Рыгі ў мясцовыя архівы. У выданні змешчана 720 фотаздымкаў, ёсць і рэдкія архіўныя дакументы, напрыклад, ліст школьнаму інспектару, напісаны лацінкай па-беларуску, у якім жыхары вёскі ў 1920-я гады просяць адкрыць беларускую школу. А самы далёкі продак, пра якога Вячка Целеш знайшоў інфармацыю, – гэта ягоная прапрапрапрабабуля 1795 года нараджэння.

Кнігу аўтар выдаў за свой кошт. “Для мяне было галоўнае, каб яе прачыталі мае Целешы, а іх шмат, і яны раскіданыя па ўсім свеце – у Канадзе, Расіі, ва Украіне, у Польшчы”, – кажа пісьменнік.

“Хутка можна выдаваць кнігу “Целешы на старых паштоўках”, – пажартаваў наконт маштабнасці працы вядоўца вечара Усевалад Сцебурака.

*Паводле Аляксандры Дорскай, фота Зарыны Кандрацьевай, budzma.by*

# Уладзімір Мароз у гасцях у кіеўскіх студэнтаў-беларусістаў

14 траўня ў Цэнтры беларускай мовы і культуры імя Уладзіміра Караткевіча Інстытута філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі паэт і кінадакументаліст Уладзімір Мароз сустрэўся са студэнтамі і магістрантамі спецыяльнасці “Беларуская мова і літаратура”. Гэтая паездка адбылася пры дапамозе Саюза беларускіх пісьменнікаў і Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”.

Госця прысутным прадставіла дырэктар Цэнтра Леся Мікалаеўна Сцебліна. У. Мароз расказаў аб працы над дакументальным фільмам “Свет Караткевіча”, аўтарам сцэнара якога ён з’яўляецца, пасля чаго адбыўся прагляд стужкі. Пасля яе прагляду і абмеркавання пераходам да прэзентацыі новай кнігі вершаў У. Мароза “Крыжы на ростанях” стаў прачытаны аўтарам санет “Шляхетны вобраз” з прысвячэннем Уладзіміру Караткевічу. У. Мароз распавёў, як складвалася кніга, прачытаў некалькі вершаў з Ерусалімскай нізкі “Горнія скрыжалі”, якою яна пачынаецца. Прагучалі і патрыятычныя вершы, і любоўная лірыка. Студэнты з цікавасцю слухалі беларускае паэтычнае слова, задавалі госцю шмат пытанняў аб літаратуры і кіно. Сустрэча праходзіла ў зале мастацтваў Інстытута філалогіі.

# Генадзя Бураўкіна ўспомнілі ў Мінску

30 траўня, у гадавіну па Генадзю Бураўкіну — паэту, грамадскаму дзеячу, класіку беларускай літаратуры, песні на вершы якога ўвайшлі ў залаты фонд нашай культуры, — адбылося ўскладанне кветак на Усходніх могілках у Мінску, дзе пахаваны пісьменнік.

Ушанаваць памяць Генадзя Мікалаевіча прыйшлі родныя і блізкія, а таксама сябры і калегі, аднадумцы і прыхільнікі яго творчасці. Былі ўскладзеныя кветкі і ад арганізацый — ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў” і МГА ЗБС “Бацькаўшчына”.

Са словамі-ўспамінамі пра Генадзя Бураўкіна выступілі: старшыня Віцебскай абласной філіі ТБМ Іосіф Навумчык, пісьменнікі Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла. Даследчык Сяргей Шапран зачытаў ліст-зварот, перададзены Аляксандрам Фядутам, які, на жаль, не змог асабіста прысутнічаць.



У прамовах прагучалі вершы спадара Генадзя, любімыя яго сябрамі і цытаваныя на памяць, згадвалася літаратурнае пакаленне шасцідзясятнікаў, што зрабіла значны ўнёсак у станаўленне беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнай культуры на пачатку 1990-х гадоў. Генадзь Мікалаевіч як адзін з найярчэйшых прадстаўнікоў гэтага пакалення да апошніх дзён свайго жыцця рупіўся пра Беларусь і яе будучыню.

На завяршэнне жонка Юлія Бураўкіна падзякавала ўсім тым, хто шануе і памятае Паэта.

*Паводле lit-bel.org*

# МАЛЬДЗІС ПРАПАНУЕ СТАЖЫРАВАЦЬ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У СКАРЫНАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ Ў ЛОНДАНЕ

На паседжанні круглага стала “Францішак Скарына і яго час”, які прайшоў у рамках VI Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, вядомы літаратуразнаўца, гісторык і пісьменнік Адам Мальдзіс выказаў меркаванне, што такія стажыроўкі могуць быць цікавымі для Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, а “там і іншыя падцягнуцца”, перадае БелаПАН.

Беларуская бібліятэка імя Скарыны ў Лондане была заснавана ў 1971 годзе. У ёй захоўваюцца даведнікі і слоўнікі, мастацкая, гістарычная, этнаграфічная, царкоўная і іншая літаратура, выдадзеная ў Беларусі і за мяжой на многіх мовах свету. Скарынаўская бібліятэка змяшчае найбуйнейшую ў Заходняй Еўропе калекцыю кніг і друкаваных матэрыялаў, якія маюць дачыненне да Беларусі. Тут утрымліваюцца рэдкія і каштоўныя асобнікі, у тым ліку некаторыя арыгіналы кніг Францішка Скарыны, іншыя выданні, датаваныя пачынаючы з XVII стагоддзя. Калекцыя бібліятэкі рэгулярна папаўняецца.

З 1981 года бібліятэкай кіраваў апостальскі візітатар для беларусаў — грэка-каталікоў у эміграцыі айцец Аляксандр Надсан, які памёр сёлета ў красавіку. Ён фактычна жыў у будынку бібліятэкі, і яе дзверы былі адчыненыя. Пасля смерці айца Надсана ўстанову ўзначаліла апякунская рада з сямі беларускіх і брытанскіх беларусістаў.

Нягледзячы на шматлікія чуткі пра магчымае закрыццё бібліятэкі пасля смерці кіраўніка, у рэальнасці ёй нічога такога не пагражае, заявіў адзін з сябраў апякунскай рады прафесар Джым Дынглі. Аднак гэта не значыць, што ў бібліятэкі няма праблем: “У нас ёсць кавалак зямлі, добры будынак, які, вядома, патрабуе рамонту, ёсць калекцыя кніг і часопісаў на паліцах, але... няма чытачоў”.

“Сёння мы знаходзімся ў сітуацыі, калі ў бібліятэцы ніхто не жыве”, — сказаў ён. Дынглі падкрэсліў, што члены апякунскай рады ў цяперашні час вырашаюць, што трэба зрабіць, каб “засталася жывая ідэя бібліятэкі”, а яе дзверы “былі адчыненыя для чытачоў”. У прыватнасці, кіроўная рада дамовілася па чарзе дзяжурыць у бібліятэцы кожную суботу. Таксама сябры рады пачалі рабіць лічбавы варыянт фондаў. Акрамя таго, яны плануюць укараніць практыку выдачы кніг на дом. Пакуль застаецца нявырашанай задача, што рабіць з архівам бібліятэкі, які настолькі вялікі, што “ніхто дакладна не ведае, што там знаходзіцца”.

*Паводле “Радыё Свабода”*

# ШТО СКАЗАЎ ДЗМІТРЫ ПЛАКС НА ТРОХ МОВАХ

29 красавіка ў межах выставы “Мінск. Нонкарфармізм 1980-х” пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у Галерэі “Ў” прайшла паэтычная вечарына “Трайная эспрэса: тры мовы, тры кнігі, адно мастацтва” Дзмітрыя Плакса (Беларусь-Швецыя) пад музычны акампанемент “Беларускага клімату”.

Як расказаў спадар Плакс, над гэтым праектам ён працаваў дзесяць гадоў. Яго паэтычныя тэксты пачалі з’яўляцца дзякуючы апантанай перакладчыцкай дзейнасці. Дзмітры перакладае беларускую літаратуру на шведскую і наадварот.

“У пэўны момант я вырашыў для сябе, што больш не магу рабіць пераклады. Я выпрацую для сябе такі спосаб пісьма, які дазваляе мне дасягаць тых самых мастацкіх мэтаў, якія я перад сабою стаўлю, на тых мовах, на якіх я працую, без пасярэдніцтва перакладу”, – адзначыў творца на пачатку імпрэзы.

На працягу вечара аматары творчасці Плакса мелі магчымасць праслухаць выбраныя тэксты з цяпер ужо амаль рарытэтных выданняў “Трыццаць тэкстаў”, “Жара”, “re cicat iver”. Больш за ўсё пашчасціла тым з прысутных, хто меў магчымасць параўнаць гучанне тэкстаў на ўсіх трох мовах – беларускай, рускай і шведскай. Так праз дзесяць гадоў выпрацоўкі ўласнай тэорыі Дзмітры Плакс змог паўнавартасна прэзентаваць яе вынікі шырокай аўдыторыі ў Мінску.

Атмасферу медытатыўнасці і ірэальнага гучання ствараў музычны акампанемент “Беларускага клімату” ў выкананні Філіпа Чмыра, які пры дапамозе розных інструментаў надаваў кожнаму тэксту Дзмітрыя Плакса свой асобны голас, сваю мелодыю.

Пасля заканчэння асноўнай часткі вечара Дзмітры Плакс распавёў пра свой уласны досвед нонкарфармізму і пра жыццё творчага асяроддзя Мінска 80-90-х гадоў, зараджэнне розных згуртаванняў, суполак, ідэй, аб непрыняцці мастакамі і творцамі савецкай рэчаіснасці і спосабах пазбягаць сутыкнення з ёю.

*Паводле Крысціны Бандурынай, lit-bel.org*

# ПАДЛЯШСКІЯ ЮБІЛЕІ

**Беларускаму дзіцячаму садку ў Беластоку споўнілася 20 гадоў**

Беларускамоўныя групы ў Беластоку адзначаць 20-годдзе існавання. У сталіцы Падляшша 23 чэрвеня пройдзе адмысловы з’езд выпускнікоў беларускіх групаў.

За дваццаць гадоў існавання беларускія групы Беластоцкага дзіцячага садка №14 выхавалі больш за сотню дзяцей. Сёлета ў трох групах садка па-беларуску вучыцца каля 80 дзетак.

**Бельская “тройка” святкуе залаты юбілей**

12 траўня пачатковая школа з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім – папулярная “тройка” – святкуе 50-годдзе.

Бельская “тройка” ад пачатку існавання была беларускай школай, дзе быў высокі ўзровень адукацыі. Аднак пачатак беларускай школы ў Бельску датаваць мы павінны вераснем 1944 года, як кажа выпускнік “тройкі”, архівіст Славамір Іванюк: “Гісторыя бельскай “тройкі” пачалася ў 1944 годзе. У 1965 годзе аддзялілі ліцэй ад пачатковай школы. Была такая рэарганізацыя беларускіх школ. Таму гэтую традыцыю мы павінны адлічваць ад 1944 года”.

У кастрычніку 2005 года школе нададзена імя заснавальніка і першага дырэктара Яраслава Кастыцэвіча.

**Яну Чыквіну – 75**

Старшыні літаратурнага аб’яднання “Белавежа” Яну Чыквіну 18 траўня споўнілася 75 гадоў. Ён з’яўляецца ўніверсітэцкім выкладчыкам і літаратурным крытыкам, выдаўцом часопіса “Тэрмапілы”.

Цяперашняя літаратура, на думку Яна Чыквіна, аказалася ў складанай сітуацыі.

“І ў Польшчы, і ў Беларусі, і ў Расіі раптам выявілася, што напісанне і выданне кніг – гэта чыста меркантыльны інтарэс. Амаль нікога не цікавіць, ці гэтая кніга мае вартасць эстэтычную, што гэта шэдэўр. Кніга зараз – тавар”.

Ураджэнец Дубічаў Царкоўных, што на Гайнаўшчыне, Ян Чыквін з’яўляецца аўтарам зборнікаў вершаў між іншымі “Іду”, “Святая студня” ці “Крэйдавае кола”. Навуковую кар’еру пачаў з 1969 года ў філіяле Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. З 1970 Ян Чыквін з’яўляецца сябрам Саюза польскіх пісьменнікаў.

*Паводле “Беларускага Радыё Рацыя”*

# У МАСКВЕ АДБЫЎСЯ ШОСТЫ З'ЕЗД ФНКА "БЕЛАРУСЫ РАСІІ"

22 траўня 2015 г. у Маскоўскім доме нацыянальнасцяў адбыўся Шосты з'езд Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі". На ім прысутнічалі 37 дэлегатаў ад розных беларускіх асяродкаў і арганізацый Расіі, 16 сябраў Рады ФНКА, а таксама шматлікія госці.

Пра значнасць мерапрыемства сведчыць тое, што прывітаннямі тут выступілі саветнік амбасады Беларусі ў Расіі Павел Лёгкі (зачытаў прывітанне з'езду ад імя Міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея), намеснік Дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза (з прывітаннем ад Дзяржсакратара Рыгора Рапоты). Апошні сярод іншага сцвярджаў, што адна з найважнейшых задач расійскіх беларусаў — спрыянне эканамічнаму ўзаемадзеянню дзвюх краінаў.



*Валер Казакоў, Іван Бамбіза, Сяргей Кандыбовіч*

Прывітальнае слова ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" агучыла на з'ездзе сябра Рады і Управы арганізацыі гісторык Наталля Гардзіенка. У звароце была адзначана дзейнасць кіраўніка ФНКА Валера Казакова па дапамозе ў арганізацыі музея Барыса Кіта ў Навагрудку, вяртанні ў Беларусь каштоўных старадрукаў, у тым ліку арыгіналу Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. У дадатак да прывітання ад ЗБС "Бацькаўшчына" кіраўніцтву ФНКА быў зроблены падарунак — карціна з выявай мінскага Верхняга горада.

У асноўнай частцы з'езду старшыня ФНКА Валер Казакоў выступіў з справаздачным дакладам, дзе было адзначана павелічэнне цягам апошніх пяці гадоў колькасці мясцовых і рэгіянальных беларускіх арганізацый у Расіі, актывізацыя статутнай дзейнасці аўтаноміі, умацаванне міжрэгіянальных сувязяў. Пры гэтым заўважаныя былі і пэўныя пралікі. Так, гаспадарчай дзейнасці цягам апошніх пяці гадоў ФНКА не вяла, руху сродкаў на рахунку не зафіксавана.

У часе выступаў-абмеркаванняў дакладу прадстаўнікі рэгіянальных арганізацый беларусаў казалі пра тыя мерапрыемствы і ініцыятывы, што рэалізоўваюцца на месцах, а таксама наяўныя праблемы. Сярод найбольш актуальных — недахоп фінансавання. Дысанансам прагучаў даклад беларуса з Архангельскай вобласці, які паведаміў, што за год мясцовая беларуская аўтаномія атрымала грантаў на паўтара мільёна расійскіх рублёў. Акрамя таго, наступны год абвешчаны ў Архангельскай вобласці годам Беларусі.

Сярод іншых рэгіянальных прадстаўнікоў упершыню на з'ездзе прысутнічаў прадстаўнік ад крымскіх беларусаў — колішні старшыня Вярхоўнага Савета Крыма (1995—1996), кіраўнік мясцовай беларускай садружнасці Аўген Супрунюк. Сярод іншага ён адзначыў, што, паводле розных звестак, на тэрыторыі паўвострава жыве ад 30 да 68 тысяч беларусаў.

Пераважная большасць выступаў, як і вядзенне з'езду, адбывалася парыску. Выключэннем былі звароты іркуцкага беларуса Алега Рудакова і барнаульца Мікалая Крысковіча, што звярталі ўвагу на неабходнасць вывучэння расійскімі беларусамі нацыянальнай мовы.

Гучала ў выступах і крытыка кіраўніцтва ФНКА за адсутнасць калегіяльнай працы — цягам пяці гадоў Рада не збіралася, рашэнні прымаліся пераважна старшынёй асабіста. Аднак крытычная заўвагі не паўплывалі на агульную здавальняльную адзнаку дзейнасці ФНКА "Беларусы Расіі".

Пасля выканання ўсіх неабходных арганізацыйных працэдураў з'езд падышоў да выбараў новага кіраўніцтва. Адзінай кандыдатурай на пасаду старшыні стаў былы кіраўнік Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы" Сяргей Кандыбовіч, які і быў абраны. З прапановы новага кіраўніка быў абраны склад Рады ФНКА, якая адразу ж па сканчэнні афіцыйнай часткі сабралася на першае пасяджэнне.

У афіцыйным рашэнні з'езду было адзначана, што галоўнай задачай Аўтаноміі трэба лічыць "пашырэнне працы па вывучэнні і прапагандзе беларускай гісторыі і мовы, актыўную дзейнасць па захаванні і прасоўванні на публічных пляцоўках беларускай нацыянальнай культуры, для чаго працягваць працу па ўзаемадзеянні з сярэднімі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, праводзіць навукова-практычныя тэматычныя канферэнцыі, семінары, круглыя сталы. Аказваць асаблівую падтрымку этнакультурным і творчым калектывам, культурным цэнтрам, дзе назапашаны вопыт рэстаўрацыі і аднаўлення народнай беларускай традыцыі, песеннай і харэаграфічнай культуры, асаблівасцяў побыту і вераванняў". У якасці задачаў арганізацыі на найбліжэйшую будучыню пазначаныя: стварэнне і рэгулярнае абнаўленне сайтаў федэральнай і ўсіх рэгіянальных аўтаномій, актывізацыя працы з моладдзю, а таксама пошук эфектыўных шляхоў самафінансавання, грантаў і спонсараў для дзейнасці беларускіх арганізацый ў Расіі.

Пасля заканчэння афіцыйнай часткі з'езду ФНКА "Беларусы Расіі" яго ўдзельнікі былі запрошаныя ў амбасаду Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі. Тут адбылася экскурсія па новаствораным Дзелавым і культурным цэнтры, мэта якога — садзейнічаць у развіцці беларуска-расійскага супрацоўніцтва. На адмыслова арганізаванай сустрэчы з удзельнікамі з'езду Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка ўручыў падзякі і дыпломы прадстаўнікам беларускай дыяспары ў Расіі за вялікую і разнапланавую працу па збліжэнні двух народаў.

*Паводле Наталлі Гардзіенка*

На сайце zbsb.org чытайце таксама зварот, з якім на з'ездзе выступіў Алег Рудакоў, ды інтэрв'ю Наталлі Гардзіенка з Аленай Сіпаковай.

# НОВЫ ЎРАДЖАЙ "ГАРБУЗІКА"

Перыёдык для беларускамоўных дзетак выходзіў і раней стараннямі творчых бацькоў. Але цяпер, займеўшы падтрымку Саюза беларускіх пісьменнікаў і кампаніі "Будзьма беларусамі!", "Гарбузік" стаў ярчэйшым, пашырыў колькасць чытачоў і, спадзяемся, з'явіцца і ў дзяржаўных кнігарнях. Новае жыццё "Гарбузіка" адзначылі ў музеі навукі Elemento.

Пачалося ўсё з таго, што беларускамоўныя бацькі, як гэта часта бывае, вырашылі самі зрабіць для сваіх дзяцей тое, што нідзе не купіш, – альманах з рэбусамі, вершамі, казкамі, забавамі і гульнямі на роднай мове. Запачаткоўваўся ён проста на форумах сайта dzetki.org.

"Бацькі абмяркоўвалі беларускамоўныя дзіцячыя выданні і параўноўвалі з замежнымі – часта не на карысць нашых, – згадвае рэдактарка "Гарбузіка" Вольга Мазурава. – Потым нехта сказаў, што мог бы рабіць вёрстку, хтосьці – дызайн, у кагосьці быў досвед стварэння тэксту, нехта рэдагуе. У выніку набралася пэўная колькасць людзей, гатовых рабіць саматужным накладам гэтае выданне".

У такім выглядзе часопіс пратрываў пяць нумароў, яны былі тэматычныя – пра Вялікдзень, дыназаўраў, рыцараў, акіян, космас. Паступова бацькам захацелася, каб выданне пабачылі не толькі іх уласныя дзеці, але і іншыя маленькія беларусы. "Таму калі Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да нас з прапановай, мы былі ўжо гатовыя", – кажа рэдактарка. Пакуль альманах будзе мець два выпускі на год: адзін для дашкалятаў, другі – для цікаўных малодшых школьнікаў, якія ўжо ўмеюць чытаць. А як будзе попыт, магчыма, альманах пачне выходзіць часцей. У рэдакцыйную каманду ўвайшлі вядомыя пісьменнікі, мастакі, журналісты і мовазнаўцы – па сумяшчальніцтве мамы і таты.




Глабальная мэта ў "Гарбузіка" таксама ёсць: "Нам хацелася б стварыць своеасаблівы збор прэцэдэнтных тэкстаў – тых, на якіх гадуецца цэлая генерацыя", – кажа Вольга Мазурава.

На старонках альманаха будуць і майстар-класы, і энцыклапедычныя разгорты, і малюнкі ды апавяданні саміх дзетак, якія ўжо выступаюць як першыя тэставальнікі альманаху, а хутка стануць і суаўтарамі.

Арганізатары спадзяюцца, што альманах з'явіцца ў кнігарнях і бібліятэках – у тым ліку і ў рэгіёнах. Цяпер наклад альманаха – 1000 асобнікаў, але гэта зусім не шмат для ўсёй Беларусі, лічыць прадстаўнік СБП, паэт Анатоль Івашчанка. Як бацька траіх дзяцей ён кажа, што альманах сапраўды файны і карысны, але думае, што наступныя нумары будуць моцна адрозніваца ад першага, у якім сабралі найлепшыя матэрыялы папярэдніх гадоў: "Мне здаецца, такі беларускі дзіцячы часопіс на сёння мусіць быць тэматычны і канцэптуальны, я бачу, што ў будучыні ён будзе яшчэ цікавейшым. Аўдыторыя яго значна шырэйшая, чым пачатковая школа, штосьці для сябе знойдуць і падлеткі, і, вядома ж, бацькі".

На прэзентацыі першага нумара "Гарбузіка" ў новым фармаце выступалі вядомыя бацькі разам з дзецьмі, а напрыканцы юную аўдыторыю альманаха ўражваў хімічнымі эксперыментамі шалёны прафесар Леапольд Мазгакруцікаў.

*Паводле Аляксандры Дорскай, budzma.by*

# АЛЯКСЕЙ ШЭІН. СЕМ КАМЯНЁЎ: РАМАН-КАЗКА

Доўгачаканы раман-казка пра прыгоды ў чарадзейнай краіне Эферыі, напісаны грамадскім дзеячам, заснавальнікам моўных курсаў і татам траіх сыноў Аляксеем Шэіным, выйшаў у серыі "Каляровы ровар" Бібліятэкі "Кнігарня пісьменніка" Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У адным з інтэрв'ю аўтар прызнаецца, што яшчэ з дзяцінства марыў стаць пісьменнікам і падчас працы арыентаваўся на класіку фэнтэзійнага жанру — "Хронікі Нарніі" Клайва Льюіса і "Уладара пярсцёнкаў" Джона Толкіна.




"Увогуле, кніга пра тры рэчы — каханне, веру і свабоду. Галоўнага героя завуць Ясь, ён падлетак. Ясь трапляе ў чароўную краіну Эферыю, дзе змагаецца за жыццё сваёй невылечна хворай сяброўкі Міркі. Выпадкова Ясь даведваецца, што ў Эферыі калісьці была крыніца жывой вады. Сюжэт пабудаваны вакол пошукаў жывой вады — трэба знайсці сем камянёў, якія падкажуць, дзе схаваная крыніца. Акрамя таго, краіну Эферыю захапіў самазванец, які кіруе народам несправядліва. Галоўны герой паралельна змагаецца і за тое, каб вярнуць свабоду ў краіну Эферыю", — расказвае Аляксей Шэін.

Афармленне вокладкі кнігі, а таксама малюнкі ў тэксце належаць мастаку Раману Суставу, для якога гэта быў першы досвед працы над менавіта беларускамоўнай кнігай.

У траўні ў рамках кампаніі "Будзьма беларусамі!" прайшлі прэзентацыі кнігі Аляксея Шэіна ў Віцебску і Гародні.

Шукайце раман-казку "Сём камянёў" у мінскіх кнігарнях "Акадэмкніга" і "ЛогвінаЎ", у інтэрнэт-крамах imbryk.by і prastora.by, knihi.by.

*Паводле lit-bel.org, budzma.by*

# ІРКУЦКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ІМЯ ЯНА ЧЭРСКАГА ЗБЯРЭ БЕЛАРУСАЎ НА БАЙКАЛЕ

Ідэя, якая ўзнікла яшчэ некалькі гадоў таму, у сёлета, нарэшце, ажыццявіцца. З трэцяга па дзявятага жніўня на Малым моры пройдзе першы Фестываль беларусаў свету на Байкале.

Мы хочам сабраць на Байкальскім беразе беларусаў з тэрыторыі Іркуцкай вобласці, з беларускіх суполак у іншых рэгіёнах Расіі ды ў іншых краінах свету і, вядома ж, з Беларусі, каб кожны мог зарадзіцца Байкальскай энергіяй і накіраваць гэтую энергію на карысць нашай агульнай справы – адраджэння, захавання і развіцця беларускай культуры.

У праграме фестывалю – песні, танцы, шматлікія майстар-класы, абмен досведам, пешыя і водныя экскурсіі па Байкальскі берагах, а для самых трывалых – узыходжанне на пік Яна Чэрскага (2090 метраў над узроўнем мора).

Мы забяспечваем ільготнае пражыванне на базе адпачынку "Каўчэг Байкала", размешчанай у адным з найбольш маляўнічых куткоў Малога мора – цёплага заліва паміж паўночна-заходнім берагам возера і востравам Альхон. Да вашых паслуг розныя ўмовы пражывання, ад простых турыстычных намётаў да цалкам добраўпарадкаваных нумароў, а таксама традыцыйныя Бурацкія лямцавыя юрты.

Самы час планаваць Ваш адпачынак!

Больш падрабязную інфармацыю шукайце ў нашай групе "Вконтакте" vk.com/baikalbelarus2015.

*Бюлетэнь-газета ІТБК "Маланка" № 138*

# ВЫЙШЛА АЎДЫЁКНІГА З ГОЛАСАМ І ЗАПАВЕТАМ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА




Студыя "Гукапіс" кампаніі "ПРАСТОРА БАЙ" сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў і "Арт-Сядзібай" выпусціла аўдыёкнігу Генадзя Бураўкіна ў серыі "Голас Паэта" з запісамі вершаў розных гадоў, а таксама паэмаў "Хатынскі снег" і "Узнясенне" ў аўтарскім выкананні – амаль тры гадзіны. Падрыхтавалі аўдыёкнігу Алесь Калоша і Валер Мазынскі.

"Да тых, хто застанецца, у мяне адна вялікая просьба: берагчы Беларусь, прадаўжаць тое, што зрабілі і недарабілі яе сыны лепшыя. І спадзяваюся, што ўсе мы — і тыя, што былі, і тыя, што будуць, і тыя, што ёсць, — усе мы вечныя. Вечныя ў нашай мове, вечныя ў нашай гісторыі, вечныя ў беларускай зямлі, у беларускім слове".

Паэт Генадзь Бураўкін, сябра незалежнага Саюза пісьменнікаў, Згуртавання "Бацькаўшчына" і Беларускага ПЭН-Цэнтра, памёр 30 траўня 2014 у Мінску на 78-м годзе жыцця.

*Паводле "Нашай Нівы"*

ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў чэрвені: **Тамару Плавінскую** (Кыргызстан) і **Ганну Мазур** (Малдова).

Зычым вам, дарагія імянінніцы, натхнення і плёну ў працы, падтрымкі блізкіх і сяброў, здзяйснення задуманага і пазітыву!

Сёлетні чэрвень багаты на юбілеі. **Дзмітрыю Плаксу** (Швецыя) споўніцца 45 гадоў, 50-годдзе адзначаць **Лявон Юрэвіч** (ЗША) і **Яўген Вапа** (Польшча), 60-годдзе – **Валянцін Голубеў** (Беларусь) ды **Ніна Савінава** (Эстонія), а **Валер Барташ** (Украіна) сустрэне 70-гадовы юбілей.

Зычым нашым шаноўным юбілярам творчага, цікавага, багатага на добрыя падзеі жыцця, а таксама жадаем, каб вас ніколі не пакідалі здароўе, радасць і аптымізм!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ АКУПАВАЛІ ВАРШАВУ

На некалькі дзён Варшава сталася папросту літаратурнай Меккай – тут адбылася Міжнародная кніжная выстава.

13 траўня ў Доме сустрэч з Гісторыяй адбылася творчая вечарына і дыскусія з фіналістамі літаратурнага конкурсу імя Рышарда Капусцінскага за найлепшы публіцыстычны твор 2014 года. Сярод фіналістак конкурсу прысутнічала беларуска Святлана Алексіевіч, якая, зрэшты і сталася адной з пераможцаў за кнігу "Час сэканд-хэнд" у перакладзе на польскую. Галоўная цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў адбылася вечарам 14 траўня ў Драматычным тэатры Палаца культуры і навукі. У той самы дзень, 14 траўня, у Беларускім доме ў Варшаве прайшла прэзентацыя дзвюх новых кніг гарадзенскага пісьменніка і журналіста Алеся Аркуша – раман "Мясцовы час" і выбранае паэзіі "Песня ля Замкавай гары". Вядоўцам імпрэзы стаўся беластоцкі празаік Міхась Андрасюк.

А 14–17 траўня беларускія літаратары выступалі на шведскім стэндзе ("Літаратурнае падарожжа Беларусь-Швецыя") на VI Міжнародным варшаўскім кніжным кірмашы. Між іншых адбыліся сустрэчы з варшаўскай беларускай пісьменніцай Святланай Курс, пісьменнікамі з Мінска Ігарам Бабковым і Аленай Казловай (адпаведна 16 і 17 траўня).

Усе беларускія імпрэзы на стэндзе "Беларусь-Швецыя" курыравала Марыя Сёдэрберг, вядомая беларускаму культурніцкаму колу, апантаная беларушчынай шведка. З яе ініцыятывы беларускія пісьменнікі змаглі быць пачутымі на Міжнароднай кніжнай выставе. З беларускага боку на выставе прысутнічалі прадстаўнікі выдавецтваў Ігара Логвінава, "Кнігазбор", якое прадставіла кніжныя серыі "Кнігарня пісьменніка" і "Бібліятэка Бацькаўшчыны", а таксама яшчэ некалькіх незалежных выданняў.

Прадстаўнік выдавецтва "Кнігазбор" Міраслаў Лазоўскі падзяліўся ўражаннямі ад удзелу ў выставе: "Выстава даволі маштабная, наведнікаў вельмі шмат. Нам удалося завязаць тут шмат кантактаў".

16 траўня адбыўся першы спробны літаратурны семінар на беларускай мове ў гісторыі кірмашу. Яго ўдзельнікамі сталіся літаратарка, тэлевядоўца Валярына Кустава з Мінска і паэт, перакладчык Дзмітры Плакс са Стакгольма. Кустава і Плакс чыталі свае старыя і новыя творы, разважалі пра адказнасць за словы ў сваіх творах, адказалі на пытанні слухачоў адносна перакладу і моўнай механікі.

Пасля аўтары камунікавалі з наведнікамі кірмашу непасрэдна на стэндзе. Сотні палякаў і беларусаў сталі наведнікамі беларуска-шведскага стэнду.

*Паводле "Новага Часу"*

## СТАРТУЕ НОВЫ СУПОЛЬНЫ ПРАЕКТ "ЦЫТУЙ СВАЁ!"

Праект "Цытуй сваё!" заклікае беларусаў згадаць найлепшае з беларускай думкі!

Каб трапіць у годны фан-клуб айчыннага мыслення, трэба проста дасалць улюбёныя цытаты беларускіх аўтараў на адрас cytuj.svajo@gmail.com. Праект разлічаны на два месяцы.

Штотыдзень працэс калектыўнага складання актуальнай анталогіі айчыннай думкі будуць каментаваць выбітныя асобы беларускай культурнай прасторы. Такім чынам да супольнай працы далучацца не толькі чытачы культурных тэкстаў, але і іх стваральнікі.

Ініцыятар праекту Міхал Анемпадыстаў тлумачыць: "Адна з асаблівасцяў культуры – яе пераемнасць. Мы пераймаем, назапашваем альбо забываем, дадаем сваё і перадаем увесь гэты набытак тым, хто ідзе за намі.

Апошнім часам, аднак, мы сталі нацыяй склератыкаў, быццам цалкам забыўшыся на тое, што было перад намі. Часцяком мы нанова спрабуем адказаць на тыя самыя пытанні, нягегла фармулюем нанова бліскуча сфармуляванае да нас, паўтараем тыя самыя памылкі і вынаходзім ужо вынайдзенае.

Мы цытуем каго заўгодна, толькі не тых, хто нарадзіўся і жыў на нашай зямлі, дыхаў тым самым паветрам, быў часцінкай нашай гісторыі, а значыць, і нас саміх. Кожная трапна і ёміста выказаная думка – наш супольны нематэрыяльны скарб, цагліна ў тым, што мы сёння называем беларускай культурай, яшчэ не да канца ўсведамляючы яе архітэктуру і вонкавыя межы.

Не так важна, на якой мове былі выказаныя думкі, з якіх паўстаў наш Беларускі Дом. Важна тое, ці спрыялі яны яго паўстанню, ці тлумачылі на свойскі лад жыццё і свет белы.

Слухай думкі папярэднікаў! Пагаджайся альбо спрачайся з імі!

Цытуй сваё!"




У склад аргкамітэта праекта ўвайшлі:

Міхал Анемпадыстаў (Беларускі саюз дызайнераў),

Тацццяна Вадалажская (Лятучы ўніверсітэт),

Улад Вялічка (Міжнародны кансорцыум "ЕўраБеларусь"),

Максім Жбанкоў (Беларускі Калегіум),

Глеб Лабадзенка ("Мова Нанова"),

Лізавета Неўмяржыцкая (грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!").

*budzma.by*

## ПРЫЁМ ПРАЦ НА ШОСТЫ AD.NAK! ПРАЦЯГНУТЫ ДА 8 ЧЭРВЕНЯ ЎКЛЮЧНА

Шосты фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK! дае яшчэ тыдзень, каб канчаткова вырашыцца з удзелам у Фестывалі, аформіць свае праекты згодна з патрабаваннямі і запампаваць іх на сайт.

Дэдлайн працягнуты да 8 чэрвеня ўключна!

Па стане на 1 чэрвеня ўсяго на намінацыі і конкурсы пададзена больш за 200 работ. Максімальную колькасць працаў, як заўсёды, атрымлівае намінацыя "Графічны і камунікацыйны дызайн" – 68. Таксама шмат праектаў пададзена ў намінацыях "Сацыяльная рэклама" і "Беларускаарыентаваны рэкламны і камунікацыйны праект".

Сярод новых намінацый, на якія варта звярнуць увагу ўдзельнікам AD.NAK!-2015, — "Маркетынгавая эфектыўнасць", "Інавацыі" і "Мабільная рэклама".

Удзел у Фестывалі БЯСПЛАТНЫ!

Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў з папярэдняй адметнай адукацыйнай праграмай пры ўдзеле замежных экспертаў — 2 ліпеня.

Усе падрабязнасці пра Фестываль, намінацыі і ўмовы ўдзелу ў воркшопах — у адпаведных раздзелах сайта adnak.by.

Даведкі: (029) 177-01-21, (029) 755-14-34, e-mail: adnak@budzma.org.

*Паводле budzma.by*

## ВІЦЕБСКІ КІРМАШ ПРАЕКТАЎ

Адкрытая прэзентацыя крэатыўных ідэй "Кірмаш праектаў" культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" адбылася 28 траўня ў Віцебску ў пяты раз! І ўжо ў другі раз мы сабралі прапановы віцяблянаў па святкаванні Дня горада, публічна абмеркавалі іх з прадстаўнікамі гарадской адміністрацыі і разам знайшлі ініцыятыўных партнёраў для іх рэалізацыі.

У 2014 годзе аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Віцебскага гарвыканкама абвесціў адкрыты прыём прапановаўдляскладаннякультурніцкай праграмы агульнагарадскіх святаў – Дня горада і Дня моладзі.

У выніку было сабрана некалькі дзясяткаў ідэй, а самыя грунтоўна распрацаваныя з іх былі прадстаўленыя публічна – на "Кірмашы праектаў" ад кампаніі "Будзьма беларусамі!". Дарэчы, летась 9 з 10 прапановаў удзельнікаў былі падтрыманыя адміністрацыяй горада, а іх праекты рэалізаваныя падчас святаў.

Сёлета на "Кірмашы праектаў" былі прадстаўленыя сем адметных праектаў, якія зробяць больш разнастайнай праграму святкавання Дня горада.

Пяць з іх ужо ўключаныя ў гарадскую праграму. Але паўплываць на іх напаўненне яшчэ можа кожны з вас! Звязвайцеся з арганізатарамі, прапаноўвайце свае ідэі і далучайцеся да іх! Толькі так атрымаецца зрабіць сапраўды яркія святы.

Што ж гэта за праекты? Па-першае, сёлета нарэшце спраўдзіцца задума, якая апошнія гады качавала з "Кірмаша" ў "Кірмаш" – фестываль паветраных змеяў "Свята ветру" будзе адноўлены. Па-другое, летні маркет "Барадулінкі" працягне традыцыю, закладзеную ў снежні. Па-трэцяе, краязнаўца Мікола Півавар прапануе адсвяткаваць Дзень горада за горадам – пешаходнай ці роварнай экскурсіяй па вёсцы Лужасна, якая з чэрвеня стала раёнам Віцебска. Там захаваліся цудоўныя архітэктурныя помнікі, сапраўдны дэндрапарк, а таксама можна адшукаць патоплены ў рэчцы помнік аднаму "правадыру народаў". Па-чацвёртае, адбудуцца бясплатныя майстар-класы танцах. Нарэшце, па-пятае, да Свята горада бу-дзе арганізаваны чарговы Гарадскі фотазлёт, у межах якога пройдзе шэраг майстар-класаў на адкрытай пляцоўцы.

Яшчэ два праекты, на думку Віктара Глушына (галоўнага спецыяліста аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Віцебскага гарвыканкама), патрабуюць большай падрыхтоўкі і могуць перарасці ў доўгатэрміновыя. "Спеўны Сход" Сержука Доўгушава, магчыма, збярэ ўсіх ахвотных паспяваць і падчас сёлетняга Свята горада, а таксама будзе разглядацца магчымасць пераўтварэння яго ў больш рэгулярны гарадскі праект. Ідэю стрыт-арт конкурсу "Віцебскі арнамент", які прадугледжвае адкрыты прыём заявак і адбор эскізаў на размалёўку адной з гарадскіх сцен, вырашана пакінуць на больш дэталёвую дапрацоўку.

Кампанія "Будзьма беларусамі!" шчыра ўдзячная аўтарам прадстаўленых ідэй, прадстаўнікам адміністрацыі Віцебска, экспертам, "Выставачнай зале" і ўсім-усім за крэатыўныя прапановы і актыўны ўдзел у "Кірмашы праектаў"!

Маеце жаданне актывізаваць ініцыятыўных людзей у прапанаваным намі фармаце "Кірмашу праектаў" у сваім горадзе? Пішыце на razam@budzma.org! Толькі разам у нас атрымаецца насыціць культурніцкае жыццё важнымі, захапляльнымі і незабыўнымі праектамі і падзеямі!

*Паводле Лізы Неўмяржыцкай, budzma.by*

# БЕЛАРУСЫ МАЛДОВЫ ШЫРОКА СВЯТКУЮЦЬ 70-ГОДДЗЕ ПЕРАМОГІ



*Справа - старшыня Беларускай абшчыны ў Малдове Юрый Статкевіч*

Мерапрыемстваў па правядзенні святкавання 70-годдзя вялікай Перамогі Беларуская абшчына ў Малдове запланавала шмат. Пачаліся яны з 23 лютага. Тады ў Доме нацыянальнасцей прайшоў урачысты сход абшчыны, на якім ушаноўвалі абаронцаў Айчыны.

Ужо не адзін год праводзім шэфскую працу над ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны – кампанію "Дом без адзіноты": за кожным ветэранам замацаваны член абшчыны.

Мы збіраем матэрыялы пра беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі, удзельнікаў вызвалення Малдовы ў гады ВАВ, афармляем стэнды ў клубе-музеі "Гвардзеец", які існуе пры Беларускай абшчыне Малдовы ўжо больш за 15 гадоў.

У траўні сябры абшчыны правялі суботнік у музеі "Гвардзеец", усклалі вянкі і кветкі да вечнага агню на мемарыяльным комплексе "Вечнасць" у Кішынёве, сумесна з Каардынацыйным саветам расійскіх суайчыннікаў, Бюро міжэтнічных адносін, Славянскім універсітэтам прайшлі дарогай маршу "Бессмяротны полк". 8 траўня завіталі да ветэранаў, членаў нашай абшчыны, хто не мог прыйсці на ўрачыстае пасяджэнне ў дзень Перамогі, і моладзь у нацыянальных беларускіх касцюмах уручыла грашовыя і прадуктовыя падарункі.

9 траўня адбыўся ўрачысты сход суполкі ў музеі "Гвардзеец", прысвечаны 70-годдзю Перамогі. Адбылося віншаванне ветэранаў, канцэрт, танцы.

Наперадзе і іншыя мерапрыемствы.

3 ліпеня да вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў мы правядзем літаратурныя чытанні, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны.

У жніўні плануем правесці прэзентацыю кнігі ўспамінаў "Як мы ваявалі" ветэрана вайны, удзельніка парада Перамогі 1945 года Уладзіміра Віктаравіча Вайцэховіча, якому 10 траўня споўніўся 91 год. (*Дарэчы, як паведаміла старшыня Беларускага культурнага руху Малдовы Ганна Мазур, 6 мая на дзяржаўным радыё "Radio Moldova" выйшла беларускамоўная радыёперадача аўтара Генадзя Зянькова "Беларуская крыніца", прысвечаная 70-годдзю Перамогі, у якой прагучала інтэрв'ю з Уладзімірам Віктаравічам – Рэд.*).

А ў верасні збіраемся арганізаваць паездку членаў абшчыны па гераічных мясцінах Вялікай Айчыннай вайны Рэспублікі Беларусь.

Беларуская грамада ў Рэспубліцы Малдовы існуе ўжо 20 гадоў. За гэты час яна аб'ядняла сотні беларусаў, якія воляй лёсу трапілі ў Малдову.

І за ўсе гэтыя гады мы не забылі сваю мову, сваю культуру і традыцыі.

Сёння нашу Грамаду ведаюць ва ўсёй Малдове, а за поспехі ў галіне захавання нацыянальных традыцый нас неаднаразова ставілі ў прыклад іншым нацыянальным меншасцям і ўзнагароджвалі.

Сёння ніводнае рэспубліканскае грамадскае мерапрыемства не абыходзіцца без нашага ўдзелу. Мы, беларусы, заваявалі аўтарытэт у Рэспубліцы Малдова і ведаем, што планку заўсёды трэба трымаць на высокім узроўні.

*Паводле Юрыя Статкевіча*

# КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2015 ГОДА

2 чэрвеня – 140 гадоў таму, у 1875-м, у Нясвіжы заснавана настаўніцкая семінарыя.

7 чэрвеня – 135 гадоў таму ў маёнт. Лябёдка (цяпер Шчучынскі р-н) нарадзіўся Вацлаў Іваноўскі (1880-1943), грамадска-палітычны дзеяч, адзін са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады, асветнік, выдавец, міністр асветы ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, бурмістр Мінска (1941–1943 гг.).

9 чэрвеня – 45 гадоў таму ў Нью-Ёрку (ЗША) у сваёй кватэры невядомымі забіты Уладзімір Тамашчык (у манастве Васіль; 1900-1970), праваслаўны святар, архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

14 чэрвеня – 115 гадоў таму ў в. Несцяровічы (цяпер Свіслацкі р-н) нарадзіўся Міхась Забэйда-Суміцкі (1900-1981), спявак, педагог, дзеяч эміграцыі ў Чэхіі. На здымку ён у сваёй кватэры ў Празе ў 1970 годзе. (*Фота - pahonia.cz.*)



15 чэрвеня – 110 гадоў таму ў г. Веліж (цяпер Смаленская вобл., Расія) нарадзіўся Юрка Віцьбіч (1905-1975), пісьменнік, грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

16 чэрвеня – 60 гадоў таму ў Нью-Ёрку (ЗША) памёр Васіль Рагуля (1879-1955), грамадска-культурны дзеяч, пасол польскага сейма, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бельгіі і ЗША.

24 чэрвеня – 115 гадоў таму ў маёнт. Боркі (цяпер в. Борка-Бялевічы Капыльскага р-на) нарадзіўся Кузьма Чорны (сапр. Раманоўскі Мікалай; 1900-1944), пісьменнік, класік беларускай літаратуры, публіцыст, вязень савецкіх турмаў.

26 чэрвеня – 115 гадоў таму, у 1900-м, нарадзіўся Мікола Цэлеш (в. Зазер'е, цяпер Барысаўскі пав.), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША. Памёр пасля 1976 г.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (157), травень 2015

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі. Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава. Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская. Наклад 250 асобнікаў.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27